# Пісьменьнікі, бібліятэкі й чытачы

У газэце «Літаратура і Мастацтва» з 11 лістапада гэтага году зьмешчаны артыкул беларускага пісьменьніка Алеся Махнача пад загалоўкам «Давайце працаваць разам». У артыкуле закранаецца праблема папулярызацыі беларускай савецкай літаратуры бібліятэкамі БССР. Алесь Махнач падае эпізоды з гутарак, якія ён меў з загадчыкамі дзяржаўных бібліятэкаў у Менску, а таксама цікавыя факты адносінаў працаўнікоў бібліятэкаў да прапаганды беларускай савецкай літаратуры. З пададзеных ім фактаў зусім ясна вынікае, што, папершае, работнікі бібліятэкаў, арыентуючыся на агульны курс партыйнай палітыкі не папулярызуюць беларускай літаратуры або яе проста сабатуюць, укамплектоўваючы бібліятэкарскія фонды амаль выключна літаратурай расейскай і, падругое, — насельніцтва выяўляе малы попыт на сучасную савецкую літаратуру наагул, нятледзячы на тое, як яе папулярызуюць тыя ці іншыя арганізацыі ці ўстановы.

Пазнаёмім нашых чытачоў больш дакладна з гэтым артыкулам. Кідаючы дакор у адрас бібліятэкі, Алесь Махнач піша: «Напрыклад, у масавай бібліятэцы імя Н. Крупскай Варашылаўскага раёну на абанамэньце стаіць падстаўка. На ёй знаходзяцца тэматычныя сьпісы твораў. Пад загалоўкам «Аб тых, хто выратаваў чалавецтва» (?!) даецца чытачу пералік кніг на гэтую тэму. Але дарэмна тут шукаць назву твору, у якім-бы расказвалася аб гэраічнай партызанскай барацьбе на Беларусі, аб мужнасьці беларускага народу.»

Далей: «На гэтай-жа падстаўцы знаходзіцца другі тэматычны сьпіс кнігаў, якія рэкамэндуюцца чытачу пад агульным загалоўкам «Літаратура Беларусі». Тут пералічваюцца творы Я. Коласа, Я. Брыля, Я. Маўра, М. Танка, К. Чорнага, І. Шамякіна ... І ўсе яны ў перакладзе на расейскую мову. І хоць-бы адзін твор парэкамандавалі сваім чытачам у арыгінале.

— Не падумайце, што ў нас ня цікавяцца беларускай літаратурай, — папераджае нас загадчыца чытальнай залі Ева Канапацкая. — Іншы раз даводзіцца адмаўляць чытачу ў тым ці іншым творы.

Знаёмімся з кніжным фондам чытальнай залі. Тут няма збораў твораў Я. Купалы, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка. А што-ж тады казаць пра кніжкі пісьменьнікаў малодшага пакаленьня? Іх тут амаль зусім ня ўбачыш. Затое на кніжных паліцах стаіць 30 экзэмпляраў аднаго выданьня «Амэрыканскай трагедыі» Т. Дрэйзэра, 15 экзэмпляраў «Дэкамэрона» Д. Бакачыё і г. д.

— Гэта ня пры мне іх набывалі, — нібы ў апраўданьне гаворыць Н. Сьмірнова (загадчыца — М. К.).

Але загадчыца бібліятэкі нічога ня можа знайсьці ў вапраўданьне таго, што дапускае вялікія недакладнасьці ў камплектаваньні кніжнага фонду творамі беларускіх пісьменьнікаў і ня імкнецца іх прапагандаваць у арыгінале.

Праўда, бібліятэку імя Крупскай можна пахваліць за прапаганду расейскай савецкай літаратуры.»

Далей Алесь Махнач сьцьвярджае, што і ў гарадзкой бібліятэцы імя Я. Купалы таксама «наглядаецца няправільны падыход да камплектаваньня кніжнага фонду й прапаганды беларускай літаратуры». Ён піша:

«Сёлета бібліятэка выпусьціла ў сьвет і разаслала на прадпрыемствы гораду дзесяцітысячным тыражом лістоўку-брашуру «Усім членам брыгад камуністычнай працы і ўсім рабочым». Яна запрашае кажнага рабочага стаць чытачом бібліятэкі, дзе ён можа атрымаць разнастайную неабходную літаратуру для вучобы й павышэньня кваліфікацыі.

На трэцяй старонцы лістоўкі гаворыцца: «Рэкамэндуем пачытаць кнігі і артыкулы...», а далей ідуць тэматычныя разьдзелы: «Працаваць пакамуністычнаму», «Выхоўваць у сабе лепшыя якасьці чалавека новага грамадзтва» і «Праца савецкіх людзей у мастацкай літаратуры». Рабочым рэкамэндуецца прачытаць артыкулы з цэнтральных газэтаў і часапісаў, а таксама «Брускі» Ф. Панфёрава, «Час, уперад!» В. Катаева, «Горны вецер» С. Сартакова і многія іншыя кнігі расейскіх савецкіх пісьменьнікаў аб нашай работніцкай клясе. Дзіўна адно, што тут ні ў вадным з разьдзелаў не знайшлося месца ніводнаму артыкулу мастацкаму твору, прысьвечанаму працы работнікаў Савецкай Беларусі. Няўжо ў рэспубліканскім пэрыядычным друку ў нас ня было цікавых артыкулаў і нарысаў на гэтую тэму? Няўжо пісьменьнікі нашай рэспублікі не стварылі твораў аб работніцкай клясе?»

А як-жа, ёсьць! Не заўсёды, праўда, цікавыя й мастацкія.

Далей Алесь Махнач пералічае гэткія творы, пачынаючы ад раманаў Броўкі. Толькі чамусьці навет гэтыя, найбольш артадаксальныя, найбольш вытрыманыя ў духу партыйных вымогаў творы ніяк ня могуць прабіцца на полкі бібліятэкаў сыстэмы міністэрства культуры БССР. Найбольш у гэтым не шанцуе маладым пісьменьнікам.

Гаворачы далей аб бібліятэцы імя Я. Купалы, Махнач адзначае, што ў гэтай бібліятэцы «кніжку пісьменьніка, які прыйшоў у літаратуру ў пасьляваенныя гады, амаль ня ўбачыш. Калі меркаваць па кніжным фондзе абанамэнту, дык самымі маладымі яшчэ лічацца К. Кірэенка і А. Бялевіч, а пасьля іх прыходу ў літаратуру ніхто нічога быццам-бы й не напісаў. Праўда, нашанцавала толькі В. Матэвушаву. Адзін зь ягоных зборнікаў вершаў нейкім чынам трапіў на кніжную паліцу.»

Далей чытаем: «Ня лепшае становішча з прапагандай і камплектаваньнем кніжных фондаў беларускай літаратурай і ў многіх бібліятэках сыстэмы Міністэрства культуры.

— Мне давялося пачырванець за працу нашых некаторых бібліятэкаў перад дэлегацыяй працаўнікоў культуры Літвы, зь якімі мы спаборнічаем, — расказвае інспэктар па бібліятэках Менскага гарадзкога аддзелу культуры Т. Салагубава. — Госьці адзначылі, што мы яшчэ слаба прапагандуем творы беларускай літаратуры, ня відаць іх шырокай прапаганды ў наглядным афармленьні чытальных заляў, пакояў абанамэнту і г. д. ( а калі й відаць, дык у расейскай мове — М. К.)».

Так, гонар запраўды невялікі, калі госьці з суседнай краіны зьвяртаюць увагу гаспадаром, што ў іхнай сталіцы рэдка можна спаткаць нешта, зьвязанае зь іхным нацыянальным імем.

Але працытуем далей артыкул Махнача.

«Мы пабывалі ў Менскім бібліятэчным калектары, які камплектуе кнігамі ня толькі ў сталічнай вобласьці, але й звыш 450 бібліятэк Менску. Ягоны дырэктар А. Куксёнак расказвае, што бібліятэкар яшчэ нікому не адмовіў у тэй ці іншай кніжцы беларускага аўтара. Некаторыя зь бібліятэчных калектараў ня хочуць набываць многія з новых кнігаў і пачынаюць дакараць бібкалектар, калі ён ня можа даць які-небудзь прыгодніцкі твор або дэтэктыў.

На аднэй з групаў камплектаваньня, куды ўваходзяць усе бібліятэкі сыстэмы міністэрства культуры й клюбаў заводзкіх камітэтаў, рэкамандаваліся новыя кнігі беларускай літаратуры. Работніца бібкалектара Т. Кірэенка, як звычайна, спачатку дае кароткую аднатацыю кнігі, затым разам з «блянкам-заказам», дзе надрукаваныя назвы бібліятэк, перадае яе прысутным. Вось зборнік А. Васілевіча «Апавяданьні». Ён пачынае пераходзіць з рук у рукі прапагандыстых кнігі. З 74 бібліятэк гэтай групы камплектаваньня кніжку празаіка адважыліся заказаць толькі чатыры бібліятэкі. Ня лепш сустрэлі й іншыя кніжкі. На кнігу А. Дзеружынскага «Песьні маладосьці» зрабілі заказы толькі дзьве бібліятэкі, на зборнік гумарыстычных твораў С. Дзяргая «Цёшча» — адна бібліятэка. З усіх масавых бібліятэк сыстэмы Міністэрства культуры выбраныя творы Ул. Дубоўкі заказала толькі бібліятэка імя Л. Талстога Кастрычніцкага раёну, а зборнік вершаў А. Пысіны «Сіні ранак» — толькі дзьве бібліятэкі.

«У чым прычына? — пытаецца Алесь Махнач. — Няўжо масавым бібліятэкам не хапае сяродкаў на кнігі беларускіх пісьменьнікаў?»

Зрабіўшы адпаведныя вылічэньні, аўтар артыкулу сьцьвярджае, што «каб набыць па аднаму экзэмпляру кажнай кніжкі беларускага пісьменьніка, якая выйшла й выходзіць у сьвет у гэтым годзе, спатрэбіцца толькі 397 рублёў і 70 капеек. Сюды ўключана ў арыгінале ўсе творы прозы, паэзіі, драматургіі, літаратуразнаўства й крытыкі, у тым ліку дзіцячая літаратура й народная творчасьць». «Ці можа тады знайсьці такія сяродкі, — пытаецца Алесь Махнач, — бібліятэка імя Янкі Купалы, якой сёлета адпушчана на набыцьцё літаратуры 40 тысяч рублёў?

А можа не пад сілу гэта менскім масавым бібліятэкам сыстэмы Міністэрства культуры, якія штогоду выдаткоўваюць на папаўненьне кніжнага фонду па 20 тысяч рублёў кажная? Як бачыце, тут нашы камэнтары будуць лішнімі», — уважае Алесь Махнач. Далей ён уважае, што «аднабаковая прапаганда кніжнага фонду — гэта заганны мэтад працы».

Мы таксама згодныя з Алесям Махначом, што тут камэнтары лішнія. Толькі мы ня згодны зь ім у тым, што вінаваціць у гэтым трэба толькі адну загадчыцу Менскага гарадзкога аддзелу культуры А. Бандарэнка й мэтадыстага гарадзкой бібліятэкі імя Янкі Купалы. Гэта замалыя фігуры; яны адны справы й не сапсуюць і яе ня выратуюць. Калі Алесю Махначу запраўды залежыць, каб творы беларускіх савецкіх пісьменьнікаў, хай сабе й гэтыя «сацрэалістычныя», сваечасова і ў арыгінале даходзілі да чытача, што, быццам-бы, яму нельга адмовіць, мяркуючы па ягоным артыкуле, ён мусіў-бы закрануць запраўдны корань зла, які гэтаму перашкаджае. Яму напэўна ведама, што загадчыкі бібліятэкаў і іншыя ўрадоўцы ніжэйшых дзяржаўных установаў выконваюць

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Наступ на нацыянальныя мовы

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

клад моваведаў савецкіх саюзных і аўтаномных рэспублікаў — «Роля расейскае мовы ў разьвіцьці слоўнікавага складу моваў народаў СССР», а таксама даклады на тэмы «Аб выпрацоўцы адзінай навуковай транскрыпцыі для моваў народаў СССР» і «Некаторыя пытаньні графікі й арфаграфіі пісьменнасьці моваў народаў СССР, якія карыстаюцца альфабэтам на расейскай аснове».

Пасьля разгляду ўсіх дакладаў на пасобных сэкцыях была прынятая рэкамэндацыя «працаваць над удакладненьнем нацыянальнай пісьменнасьці, палепшаньнем тэрміналёгіі й ейнай уніфікацыі». З другога боку, як сьветчыць пастанова Прэзыдыюму Акадэміі навук СССР з 6 лютага 1959 году «Аб заданьнях і пэрспэктывах навуковых дасьледваньняў у галіне расейскае мовы» й хоць-бы гэты артыкул «XXI зьезд КПСС і некаторыя заданьні расейскага мовазнаўства», што быў зьмешчаны ў 3 нумары часапісу «Вопросы языкознания», пачнецца працэс выкрышталізоўваньня расейскае мовы, прытарнаваньня яе да выідэялізаванай мовы з сусьветным назначэньнем. Яна павінна «ўзбагаціць» усе мовы сьвету тэрмінамі сацыяльна-палітычнага, дзяржаўнага й навукова-тэхнічнага характару, яна павінна вынайсьці слоўнік агульнатэарэтычнай і філязофскай мовы.

Ня трэба таму зьдіўляцца, што ў БССР палітыканты й партыйныя мовавeды сяньня выводзяць новыя тэорыі аб тым, што беларуская мова павінна разьвівацца на аснове расейскае мовы й на расейскіх запазычаньнях, што пэрыядычны друк усіх савецкіх нацыянальных рэспублікаў усяляк намагаецца зганьбіць «буржуазны моўны нацыяналізм» ды паказаць «вялікую карысьць», якую нясе для нерасейскіх народаў авалоданьне расейскай мовай. Як зазначаюць у канцы свайго артыкулу І. К. Беладзед і А. С. Мельнічук, гэты працэс узмоцненае русыфікацыі будзе праходзіць у наступным кірунку: «Неабходна стварыць шэраг паважных тэарэтычных і навукова-папулярных лінгвістычных працаў, у якіх былі-б з марксістоўскай аб'ектыўнасьцяй асьветлены пытаньні разьвіцьця нацыянальных моваў Савецкага Саюзу і іх узаемаадносіны з расейскай мовай, як сяродкам міжнацыянальных зносінаў, крыніцай удасканальваньня нацыянальных моваў». Без «марксістоўскай аб'ектыўнасьці» ў практыцы будзе праводзіцца палітыка выцясьненьня нацыянальных моваў нерасейскіх народаў і падмена іх мовай «вялікага расейскага народу», мовай «валікай расейскай культуры й цывілізацыі».

Што-ж тут застаецца ад марксістоўскай тэорыі ўтварэньня адзінае сусьветнае нацыі з супольнай культурай і мовай, што быццам-бы павінны былі паўстаць у працэсе паступовага адміраньня нацыянальных розьніцаў, у працэсе складаньня адменнае нацыі з уваходам у яе нацыянальных элемэнтаў усіх народаў? Гэты камуністычны ідэял зьліцьця нацыяў, нацыянальных моваў і культураў партыя прадбачвае толькі ў працэсе прыцягненьня нерасейскіх народаў да расейскае мовы й культуры, у працэсе, адным словам, паступовае й сыстэматычнае русыфікацыі іх. А наагул, ці ёсьць тут прызнакі гэтага партыйнага паходу да «камунізму», да ўтварэньня апрычонага «камуністычнага грамадзтва»? Аналіз падзеяў гаворыць пра адваротнае. Ды свайму ідэялу пярэчыць таксама й сама партыя.

Прыкладам, яна цьвердзіць, што авалоданьне собскай «літаратурнай мовай», а пасьля й «сьветавай расейскай» будзе праходзіць у выніку паступовага разьвіцьця савецкага дэмакратызму, уцягненьня шырокіх слаёў насельніцтва ў кіраўніцтва ўсімі справамі краіны, прыцягненьня ўсіх грамадзян да ўдзелу ў кіраўніцтве гаспадарчым і культурным будаўніцтвам. Значыцца, настане самакіраўніцтва й зьліцьцё ўсіх клясаў у нейкае самадзейнае грамадзтва, а з гэтым самым зародзіцца культурнае адзінства й супольнасьць. З другога боку партыя адразу-ж [illegible]ць сабе, сьцьвярджаючы, што сваіх кіраўнічых правоў яна навет і ня думае нікому ўступаць, бо быццам-бы з прыбліжэньнем да камунізму ўсё больш і больш будзе ўзмацняцца кіраўнічая й выхаваўчая роля партыі й дзяржавы ў грамадзкім жыцьці. А што маем у практыцы? Больш таго, сяньня партыя прыступіла да поўнага запрыгоненьня савецкага грамадзтва, ствараючы ўсюды камісіі партыйнай кантролі й падпарадкоўваючы ім гаспадарчае й культурнае жыцьцё грамадзтва. Ведама, ува ўмовах падобнага засільля й гвалту атрымаецца ранейшая «турма народаў Расеі», але толькі не краіна «камуністычнага раю».

Залужны

Ф. КУШАЛЬ

2)

# Ваюй-жа, народзе!

## Беларускае паўстаньне 1863-64 гадоў

Найвышшая воля, што адчыняе перад вамі новае грамадзянскае жыцьцё й забясьпечвае ваш дабрабыт, дарэшты яшчэ ня споўненая, а ўжо прабуюць збудзіць у вас злачыннае пачуцьцё няўдзячнасьці й бунту супроць таго Манарха, якому вы заўдзячваеце дабро. Вы мусіце давесьці дарэмнасьць гэтых намаганьняў і, затрымліваючы кажнага, хто адважыўся-б на нешта падобнае, аддаваць яго ў рукі найбліжэйшае ўлады, што ўчыніць зь ім, як ёй кажа закон. Дапамагаючы да ўтрыманьня ў краі агульнага супакою, гэтым самым спрычыніцеся й да Вашай собскай карысьці праз якнайхутчэйшы пачатак дзеяньня праверачных камісіяў, якія маюць канчальна ўладзіць вашае зямное быцьцё, а вызначэньне якіх прыпазьнілі й зрабілі цяжкім да зьдзейсьненьня заіснавалыя разрухі».

Прыгаданая адозва разьвязала рукі ганьні расейскіх урадаўцаў, якія пачалі ўсімі спосабамі намагацца сьціраваць рэвалюцыйны агонь сялянства супраць прыхільнікаў паўстаньня, спрычыняючыся гэткім чынам да братабойнае вайны.

Улічваючы ўсё гэта, палажэньне Каліноўскага было нязвычайна цяжкое. Ён наважыў, перш за ўсё, паралізаваць расейскую прапаганду й накіраваць сялянскія масы супраць іхнага запраўднага ворага, расейскага акупанта. Вялізнаю дапамогаю яму ў гэтым была ягоная «Мужыцкая Праўда», што трапляла нават у найбольш глухія вёскі. Падругое, Каліноўскі мусіў злучыць у вадну спраўную цэласьць вайсковыя паўстанскія аддзелы, якія саматужна паўставалі на Горадзеншчыне й ня былі міжсобку павязаныя, рэгулюючы нутраныя справы аддзелаў належнымі інструкцыямі. Трэба было ўпарадкаваць іх, а таксама папоўніць новымі ахвотнікамі. Дзякуючы сваёй энэргіі й здольнасьці, Каліноўскі зрабіў усё гэта вельмі ўдала. Паўстаньне ў Горадзеншчыне мела й найбольшы размах і найдаўжэй трывала.

### ПАЎСТАНЬНЕ Ў МЕНШЧЫНЕ

Падрыхтавальная праца да паўстаньня пачалася ў Меншчыне яшчэ перад 1863 годам. Як піша Б. Ліманоўскі (Гісторыя паўстаньня народу польскага 1863—64), беларускія рэвалюцыянэры зьбіраліся ў Менску ў памешканьні дачкі ведамага беларускага пісьменьніка Вінцука Дунін-Марцінкевіча Камілі. Душою гэтых зборкаў быў Вінцук Казела. На зборках у Камілі праводзілася праца ўсьведамленьня моладзі, бо наведвала іх пераважна моладзь. Тут маладыя рэвалюцыянэры атрымлівалі літаратуру й інструкцыі, адгэтуль яны выпраўляліся на вёску дзеля працы сярод сялянства.

Паўстаньне ў Меншчыне пачалося ў канцы студзеня 1863 году. Прабег ягоны дасьледжаны гістарычнай камісіяй польскага аддзелу Інстытуту Беларускае Культуры (Інбелкульт) ў Менску. Згаданая камісія была дэлегаваная Інстытутам у Ленінградзкі цэнтральны архіў, дзе парабіла выпісы з актаў паўстаньня 1863—64 г., надрукаваныя пасьлей у Зборніку Інбелкульту. Выпісы зробленыя ў расейскай мове. Дзеля нястачы месца, я падаю тут у перакладзе на беларускую мову адно колькі вытрымкаў з рапартоў, якія пісаў начальнік жандармэрыі Менскай губэрні палкоўнік Рэйхтар галоўнаму начальніку трэйцяга аддзяленьня собскай Яго Вялікасьці канцылярыі генэралу ад'ютанту й кавалеру князю Даўгарукаму.

24-га студзеня 1863 г. палкоўнік Рэйхтар паведамляе:

«Вялікі закалот сярод вучняў Менскае гімназіі. Вучні зьбіраюць грошы й зброяцца».

5-га лютага 1863 году:

«Найбольш трывожны стан заўважыў я ў Слуцку. Духавенства, шляхта, урадаўцы й вучні — заражаныя рэвалюцыйным духам. Дэмаралізуецца моладзь, якая ўзгадоўваецца ў Слуцкай гімназіі, якая знаходзіцца на асобых правох і ёсьць пад уплывам кальвінскага духавенства».

9-га лютага 1863 году:

«Рэвалюцыйны рух у Менскай губэрні найбольш актыўны ў паветах Менскім, Навагрудзкім і Слуцкім. Менш дзейны ў Барысаўскім, Ігуменскім і Бобруйскім. Рэчыцкі, Мазырскі й Пінскі будуць неўзабаве ўцягненыя ў закалот (смуту)».

15-га лютага 1863 году палкоўнік Рэйхтар паведамляе аб нападах азброеных бандаў на пошты й рабаваньні грошы.

1-га красавіка 1863 году — аб сутычках паўстанцаў з расейскім войскам у паветах Вялейскім і Менскім.

8-га красавіка — аб пераходзе вялікае партыі паўстанцаў праз Мір, кіруючыся на Ракаў і аб разьбіцьці моцнага паўстанскага аддзелу пад Налібокамі. Камандвалі згаданым аддзелам штабс-капітан расейскае арміі Шалевіч і студэнты Клюкоўскі й Дашкевіч ды шляхціц Абуховіч.

22-га красавіка 1863 году палкоўнік Рэйхтар паведамляе, што 19-га й 22-га красавіка ўся гімназіяльная моладзь Менску й шмат нявучнёўскае моладзі, мяшчанаў і ўрадаўцаў пакінулі Менск і далучыліся да «бандаў», якія стаяць у Налібоцкай пушчы ды ў лясох Ігуменскага павету. Да паўстанцаў перайшлі падпаручыкі Менскага гарнізону Ляскоўскі й Тамковіч.

З прыгаданых вытрымкаў відаць, як дзень па дні разгортвалася паўстанская акцыя, аж ахапіла ўсю Менскую губэрню. Кіравалі паўстаньнем у Меншчыне гэткія асобы: Менскім ваяводам быў сьпярша Палікша, а пасьлей — Гэктар Лапіцкі, камісарамі —сьпярша Сьвентажэцкі, а пасьлей — др. Аскерка й студэнт Ямонт, вайсковым начальнікам гораду Менску — др. Чакатоўскі. Начальнікамі Менскага павету былі: Адам Ваньковіч, Балеслаў Аскерка й Пажэрскі, Бабруйскага павету — Чарніхоўскі, Барысаўскага павету — др. Сьвіда, Слуцкага — Міладоўскі й Магільніцкі, Рэчыцкгаа й Мазырскага — Балеслаў Сьвіда. Камандзерамі паўстанскіх аддзелаў у Меншчыне былі: Балеслаў Сьвентажэцкі, які ўзяў у палон расейскага генэрала, ды «дабрасардэчна яго звольніў», Вінцэнты Казела, штабс-капітан Шалевіч, падпаручыкі Тамковіч і Ляскоўскі, Сушэвіч, Трусаў, Ваньковіч, Сьнітка, паручыкі Дыбоўскі й Бараноўскі, ротмістар Рушыц, Лашкевіч, ксёндз Міладоўскі й Чыжык.

З радыёвай хвалі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя

# Праява бясьсільнай злосьці

Ня ведаючы, як найлепш прыгнобіць ненавісных палітычных эмігрантаў, гэтых «беларускіх буржуазных нацыяналістых», ці «бебурнацаў», гэтых «агентаў заходняга імпэрыялізму», рэдакцыя менскае «Зьвязды» натрапіла на «геніяльную» ідэю. Менавіта, прыпомніла яна старую казачку аб кашчавым дзядку й крывой бабцы, што пабудавалі сабе хатку на лёдзе. Прыйшла вясна, растаў лёд і хатка правалілася ды патонула разам зь дзедам і крывой бабкай.

Сэнс гэтай казачкі пры застасаваньні да «бебурнацаў», гэта значыць да нас — беларускіх палітычных эмігрантаў, ляжыць як на далоні. Вось-жа пабудавалі мы — цьвердзяць маскоўска-бальшавіцкія падхалімы — нашыя хаткі на лёдзе «халоднай вайны», у надзеі, што яна, з часам давядзе да вайны гарачай. Савецкі Саюз будзе разбіты, і «бебурнацы» вернуцца на Беларусь ды пабудуюць сабе раскошныя палацы, з тым, што напэўна, пры дапамозе амэрыканскіх імпэрыялістых, абвесьцяць перад гэтым паншчыну. Але гэта — толькі сонныя мары. Ніякай запраўднай вайны ня будзе, бо так апавесьціў усёведаючы таварыш Хрушчоў. Больш таго, блізкі ўжо той час, калі растае лёд «халоднай вайны», і ўсе «бебурнацы» ўтопяцца.

Але як-жа ў запраўднасьці прадстаўляюцца справы з тым лёдам? Ці-ж запраўды падарожжа Хрушчова ў Задзіночаныя Штаты ды іншыя прапагандовыя крокі Масквы распачынаюць новую эру ў дачыненьнях між Усходам і Захадам? — Не кажэце, таварышы, гоп, пакуль не пераскочыце. Ужо ня раз абвяшчалася таяньне лядоў і нічога з гэтага дасюль ня выйшла. Захад, хаця й хапае тут наіўных людзей, навучыўся глядзець бальшавіком на рукі. Самых абяцанкаў, запэўненьняў ужо ня хопіць. Пабачым, што канкрэтнага запрапануе Хрушчоў у далейшых міжнародных перагаворах, абвешчаных на першую палову 1960 году. Калі-б толькі абяцанкі й прыгожыя словы, дык ніякай вясны, якая давяла-б да таяньня лядоў ня будзе.

Крывавы маскоўскі кат ня згодзіцца на запраўдны мір, бо ён ня можа адмовіцца ад імпэрыялістычных плянаў, таксама як воўк ня можа навучыцца есьці капусту. Калі-б камуністыя зрэзыгнавалі із сваіх плянаў панаваньня над цэлым сьветам — перасталі-б быць камуністымі. Зрэштай, нядаўна мы мелі на гэта довады. Бо-ж якраз у тым часе, калі Хрушчоў раськідваўся ўсьмешкамі й чулымі абяцанкамі, — кітайскія камуністыя праводзілі далей сваю экстэрмінацыйную акцыю ў нешчасьлівым Тыбэце, а пасьля зрабілі агрэсію на гіндускай граніцы. Бязумоўна, заўсёды можна сказаць, што Масква вядзе сваю палітыку, а Пэкін сваю. Але хто-ж паверыць, што між Хрушчовам і Мао Тсэ Тунгам ня йснуе паразуменьне ў васноўных пытаньнях. Зразумела, могуць існаваць тактычныя розьніцы, але гэтыя, у канчатковым падліку, заўсёды будуць даведзеныя да таго самага марксістоўскага назоўніка.

Таму вось, рыхтавацца адпраўляць паніхіду па зьненавіджаных «бебурнацах» — крышку зарана. У гэтым праяўляецца, хутчэй, бясьсільная злосьць, чымся цьвярозая ацэна сытуацыі. Як-жа гэта было-б прыемна дастаць у свае рукі усіх гэтых беларускіх «буржуазных нацыяналістых», ці «бебурнацаў» і, наагул, усіх палітычных эмігрантаў, якія так эфэктоўна рэпрэзэнтуюць у вольным сьвеце свае паняволеныя народы. Дастаць іх у рукі й патрактаваць пасвойму. Але што-ж, ня гледзячы на ўсё, рукі за кароткія, а «бебурнацы» й надалей будуць весьці сваю працу.

Тактыка маскоўскага бальшавізму ў дачыненьні да беларускіх палітычных эмігрантаў была заўсёды такая самая. З аднаго боку, аб іх пішацца й гаворыцца з пагардай, адмаўляючы ім наагул якога-колечы значэння. Вось, кучка палітычных банкротаў і нічога больш! З другога-ж боку, аднак, атакуецца іх з заўзятасьцяй, зьневажаецца, абліваецца памыямі пры кажнай нагодзе. Адно пярэчыць другому. Бо-ж калі гэтыя «бебурнацы», гэты кашчавы дзед і крывая бабка запраўды ня йграюць ніякае ролі, калі іхная «прапагандовая балбатня», напрыклад праз радыя, ня мае ніякага эфэкту, дык нашто-ж тады закручваць сабе імі галаву ды зьвяртаць на іх увагу? Махнуць рукой, ды ўсё.

Дык вось-жа факт, што ня гледзячы на ўсе пагардлівыя жэсты, існаваньне й дзейнасьць беларускіх палітычных эмігрантаў, гэтых «бебурнацаў», ёсьць панявольнікам нашай бацькаўшчыны вельмі-ж не да смаку, баліць ім, дакучае, коліць, трывожыць. Бо эміграцыя адыгрывае сваю важную ролю. Толькі сама прысутнасьць яе сярод вольных народаў, ейная воля вытрываць на чужыне, ня гледзячы на ўсё, ёсьць доказам для сьветавае апініі, што ў Савецкім Саюзе — гэтай турме народаў — няма ані свабоды, ані справядлівасьці, ані дэмакрацыі. Людзі на Захадзе ведаюць вельмі добра, што гэтыя «бебурнацы» ня ёсьць ані абшарнікі, ані капіталістыя, што патрацілі свае ўладаньні ў родным краю й дзеля гэтага ня хочаць вяртацца ды ненавідзяць рэжым. Людзі на Захадзе даскакнала ведаюць, што нашая эміграцыя складаецца перадусім з работнікаў, сялянаў і працоўнай інтэлігенцыі. Яна зусім розьніцца ад арыстакратычнай эміграцыі часоў Вялікай Францускай Рэвалюцыі, або белай расейскай эміграцыі, якая мела месца пасьля бальшавіцкага перавароту. Гэтыя «бебурнацы» — гэта проста частка беларускага народу, якая не вяртаецца дзеля таго, што хоча мець магчымасьць весьці змаганьне за свабоду й незалежнасьць свае бацькаўшчыны.

Да гэтага, навет глухая, недакладная вестка аб палітычнай эміграцыі, якая даходзіць на бацькаўшчыну, заўсёды мае сваё значэньне. А што-ж тады гаварыць, калі весткі аб ёй даходзяць беспасярэдня на хвалях эфіру! Гэты голас свабоды грае сваю ролю, ён будзіць надзею на лепшую будучыню. Масква й ейныя сатрапы аб гэтым добра ведаюць і адсюль гэтая іх шалёная зацятасьць пад адрысам беларускай палітычнай эміграцыі.

# Аб турызьме ў камуністычных краінах

Гамбурская газэта «Ды Вэльт» зьмясьціла артыкул, прысьвечаны разьвіцьцю замежнага турызму ў камуністычных краінах. «Ды Вэльт» піша:

«Разьвіцьцё замежнага турызму — адно з найбольш выдатных зьявішчаў, якія назіраюцца ў сувязі з палітычнай адлігай у краінах Усходняй Эўропы. Зьезд прадстаўнікоў турыстычных бюраў усходняэўрапэйскіх краінаў, які нядаўна адбыўся ў Будапэшце, паказаў, што камуністычныя ўрады ўрэшце зразумелі значэньне замежнага турызму. Турызм цяпер стаўся патрэбным ня толькі як крыніца замежнай валюты, але й для прапагандовых мэтаў.

Згодна з дадзенымі «Інтурыста», да канца гэтага году Савецкі Саюз наведае 600 тысяч замежных турыстых. Узрост турызму назіраецца і ў іншых краінах Усходняй Эўропы: Чэхаславаччыну наведала 100 тысяч замежных турыстых, Баўгарыю — 110 тысяч, Вугоршчыну — каля 40 тысяч.

У сярэднім лік заходніх турыстых у гэтых краінах складае ад 20-ці да 30-ці працэнтаў агульнага ліку замежных турыстых. А павялічэньне колькасьці турыстых з заходніх краінаў раўназначнае з прыплывам замежнай валюты. Для прыкладу, варта адзначаць, што польскае турыстычнае бюро «Орбіс» за адзін летні месяц зарабіла 300 тысяч даляраў. Кажны вугорскі фарынт, укладзены ў арганізацыю замежнага турызму, дае Вугоршчыне ўтрая больш валюты, чымся капіталаўклады ў прамысловасьць. Баўгарскі ўрад разьлічвае, што ў 62-м годзе прыбыткі, атрыманыя ад замежных турыстых складуць адну трэць усяго абароту ад замежнага гандлю краіны.

Газэта «Ды Вэльт» таксама аналізуе палітычны бок наведваньня камуністычных краінаў замежнымі турыстамі. Кіраўніцтва камуністычных краінаў — піша газэта, — улічвае, што ўзрост турызму можа даць і прапагандовыя карысьці. Чужынцы, якія наведваюць камуністычныя краіны звычайна ізаляваныя ад мясцовага насельніцтва. Як правіла, яны сустракаюць толькі добра апранутых людзей, задаволеных сваім жыцьцём і таму чужынцы робяць міжволі абагульненьне. Паводля гэтых афіцыйных прадстаўнікоў, зь якімі сутыкаюцца, яны мяркуюць аб рэшце.

Усё гэта спрычынілася да таго, што будапэшцкі зьезд прадстаўнікоў турыстычных бюраў камуністычных краінаў робіць шэраг мерапрыемстваў у галіне разьвіцьця замежнага турызму. Было пастаноўлена, прыкладам, арганізаваць калектыўныя падарожжы пры зьніжаных цэнах, стварыць сетку турыстычных лягераў, павялічыць колькасьць кваліфікаваных гідаў. Дзеля заахвочваньня замежных турыстых, у Савецкім Саюзе будуюцца новыя гатэлі, наладжваюцца паляваньні. На чарнаморскім узьбярэжжы Баўгарыі за апошнія два гады было пабудавана 28 гатэляў. У Польшчы, Чэхаславаччыне й Вугоршчыне зьвяртаецца адмысловая ўвага на тое, каб пашыраць ідэю падарожжа ў гэтыя краіны сярод уцекачоў з гэтых краінаў. Прыкладам, у мінулым годзе 60 працэнтаў заходніх турыстых у Польшчы складалі якраз польскія эмігранты.

На заканчэньне газэта «Ды Вэльт» піша:

Да апошняга часу наплыў турыстых быў, аднак, спалучаны з пэўнымі цяжкасьцямі. Не стае гатэляў. Прыкладам, у Будапэшце, дзе перад вайной было 156 гатэляў, цяпер ёсьць толькі 18. Ня лепшае палажэньне і ў іншых камуністычных краінах. Усюды адчуваецца нястача бэнзынных станцыяў, гаражоў і майстэрняў для рамонту аўтамабіляў.

Адначасна з наплывам заходніх турыстых у краіны Ўсходняй Эўропы, павялічылася колькасьць турыстых з гэтых краінаў на Захад.

Трэба, аднак, адзначыць, — піша «Ды Вэльт» — што для грамадзян усходняэўрапэйскіх краінаў, за выняткам Польшчы, атрыманьне загранічнага пашпарту дзеля індывідуальнага падарожжа на Захад спалучанае з вялізарнымі цяжкасьцямі. Лягчэй паехаць з Вугоршчыны ў Кітай, чымся наведаць суседнюю Аўстрыю ці Італію. Нядаўна адна вугорская газэта апублікавала ліст чытача, у якім гаварылася: «Праз некалькі год, магчыма будзем мець змогу ляцець на Месяц, але мне яшчэ ніколі не ўдалося быць у Вене, якая знаходзіцца толькі на адлегласьці 250 кілямэтраў адгэтуль».

# Зьезд савецкіх журналістых

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

савецкае кіраўніцтва лічыць, што незалежна ад сацыяльнага паходжаньня, ад прыналежнасьці да партыі, ад нутраное накіраванасьці кажнага з гэтых працаўнікоў, можна паставіць пытаньне аб каштоўнасьці іх для чыста ўтылітарных мэтаў. Апошняя й галоўная мэта відаць з асноўнага дакладу на зьезьдзе, зробленага рэдактарам газэты «Правда» Сацюковам, які выразіў гэтую мэту ў форме запэўненьня: «... Журналістыя аддадуць усе свае сілы й веды вялікай справе прапаганды ідэяў марксізму-ленінізму, ажыцьцяўленьню гістарычных пастановаў XXI зьезду КПСС, справе будаўніцта камунізму» (Радыё Масква, 12. 11. 1959).

Такім чынам, зьезд творчых працаўнікоў пэрыядычнай прэсы праходзіў дакладна так, як праходзяць зьезды ўдарнікаў: з боку дэлегатаў выражаюцца падзякі за ўвагу разам з запэўненьнямі павысіць тэмпы свае працы.

Даволі характэрны й працоўны бок зьезду. Справа ў тым, што на працягу ўсяго папярэдняга пэрыяду савецкія журналістыя былі сябрамі прафэсыйнага саюзу працаўнікоў друку. У гэты саюз на роўных правох, побач з аўтарамі нарысаў, фэльетаністымі, адумысловымі карэспандэнтамі й іншымі высокакваліфікаванымі журналістымі ўваходзілі і ўсе іншыя працаўнікі рэдакцыяў, ад рэдактара да карэктара, экспэдытара й кур'ера. Толькі ў паасобных выпадках, калі журналісты быў аўтарам кніжкі ці рэгулярна друкаваўся ў буйным літаратурным часапісе, ён меў магчымасьць уступіць у саюз пісьменьнікаў.

Цяперашнім зьездам пакладзены пачатак новай практыкі ў арганізацыі газэтных працаўнікоў: асобна выбраныя журналістыя выдзяляюцца у васобную катэгорыю, аддзяляюцца ад рэдакцыйных апаратчыкаў і ад тэхнічнага пэрсаналу рэдакцыяў. Гэта паказваюць дакладныя лікавыя дадзеныя, што прывёў у сваім дакладзе Сацюкоў. Ён адзначыў, што ў Савецкім Саюзе, разам із шматтыражкамі, выходзіць 10 500 газэтаў, якія абслугоўваюцца 23 000 прафэсыйных журналістых. Такім чынам выходзіць, што на кажную, выдаваную ў Савецкім Саюзе газэту выпадае ўсяго толькі двух журналістых. А гэта значыць, шло паводля сяньняшняга стану журналістымі лічацца адумыслова выбраныя асобы й толькі тыя, што творча ўдзельнічаюць у газэтах.

Калі ўзяць на ўвагу, што ўва ўсіх цэнтральных і рэспубліканскіх, шматлікіх абласных, краявых, а таксама буйных паводля галінаў і вайсковых газэтах працуе па некалькі дзесяткаў журналістых, дык ясна, што навет ня кажны рэдактар можа ўвайсьці ў новазарганізаваны саюз.

Вось у чым заключаецца асноўны сэнс мерапрыемства, праведзенага пад выглядам усесаюзнага зьезду й стварэньня новай прафэсыянальнай арганізацыі: у дадзеным выпадку **праведзены самы дакладны адбор найбольш верных, найбольш надзейных і найбольш карысных для камуністычнага кіраўніцтва газэтна-часапісных працаўнікоў пяра,** што забясьпечваюць сваёй прапагандай шматміліённыя тыражы савецкіх выданьняў.

Мабілізацыйная й арганізацыйная лінія зьезду мае адзін агульны пункт. Ён выражаны ў фармулёўцы заданьняў новага саюзу, дадзенай тым-жа рэдактарам цэнтральнага воргану партыі «Правды»:

«Наш саюз павінен стала заклікаць журналістых на перадавыя працы сямігодкі, на вырашальныя адрэзкі камуністычнага будаўніцтва, павінен вучыць іх уважна ўглядацца ў жыцьцё... у яскравай і зразумелай форме прапагаваць расткі камунізму, заўзята змагацца з усім тым, што перашкаджае нашаму руху наперад».

**А. Г. Гаеў**

(Анализ текущих событий в СССР)

### ПАЎСТАНЬНЕ Ў ВІЦЕБШЧЫНЕ

У Віцебскай губэрні паўстаньне пачалося 26-га красавіка 1863 году. Першым актам паўстанцаў быў напад на чыгуначны транспарт зброі каля станцыі Краслаўе. Зброя гэтая перавозілася для войска зь Дзьвінскае цьвярдыні й была ўся забраная паўстанцамі, якімі камандаваў Буйніцкі. Расейскія ўлады падазравалі, што напад быў арганізаваны маладым графам Лявонам Плятарам, якога навакольная шляхта называла «хлапаманам», бо апранаўся ён у сялянскую сьвітку, трымаўся разам зь сялянамі, часта зь імі гутарыў, бываў у іхных хатах і г. д. Прыгон у ягоных дварох быў лёгкі й сяляне дзеля гэтага вельмі маладога графа любілі. Гэтага было досыць, каб падозраньні ўлады затрымаліся на ягонай асобе. Граф Плятар быў арыштаваны й аддадзены пад ваенна-палявы суд. На судзе, каб ня выдаць запраўднага кіраўніка нападу на транспарт зброі — Буйніцкага, Плятар узяў усю віну на сябе й быў засуджаны на сьмерць. 12-га травеня праз Дзьвінск праяжджаў зь Пецярбургу Мураўёў. Даведаўшыся, што граф Плятар яшчэ жыве, Мураўёў зацьвердзіў прысуд і неўзабаве малады гэрой быў расстраляны. Ён быў першай ахвярай Мураўёвага тэрору на Беларусі.

У Віцебшчыне жыло шмат чыстых маскоўцаў, старавераў. Іхныя дзяды ўцяклі былі ў 17-ым стагодзьдзі з Маскоўшчыны ў Вялікае Княства Літоўскае, ратуючыся ад рэлігійнага перасьледу пасьля царкоўнае рэформы патрыярха Нікана. Урад Вялікага Княства Ліпоўскага прыняў іх, надзяліў зямлёю й дазволіў свабодна карыстацца старою праваслаўнаю вераю. У часох паўстаньня 1863 году ў старавераў гэтых прабудзілася, адылі, маскоўская кроў. Пасьля нападу беларускіх паўстанцаў на транспарт зброі, старавяры ўлучыліся ў змаганьне супраць іх, нападаючы на двары беларускае шляхты й хвальваркі, рабуючы й палячы іх ды вібіваючы цэлыя сем'і. Расейскія ўлады прыглядаліся да гэтае разьні абыякава й толькі калі яна пачала пагражаць перакінуцца ў суседнія расейскія губэрні, зь Пецярбургу быў прысланы ў Віцебшчыну ген. Шувалаў, каб на месцы дасьледваць справу. «Дасьледваўшы», ён пахваліў старавераў за іхную адданасьць Расеі й трону, узнагародзіў грашыма, але ўсё-ж забараніў ім праяўляць далей іхны расейскі «патрыятызм». Пахваліў старавераў і Мураўёў, назваўшы іх «запраўднымі патрыётамі, адданымі цару й айчыне.» У староверскай акцыі супраць беларускае шляхты беларускія сяляне ўдзелу не ўзялі. Яні далучыліся да паўстаньня, якое мела ў Віцебшчыне вялікі разгон, асабліва ў паветах Полацкім, Дрысьненскім ды Дзьвінскім. Мураўёў тлумачыў гэты разгон, у сваіх успамінах, тым, што ў Полацку існавала езуіцкая акадэмія, якая, быццам, і прышчапіла беларускаму жыхарству ненавісьць да Расеі.

### ПАЎСТАНЬНЕ Ў МАГІЛЕЎШЧЫНЕ

У Магілеўшчыне паўстаньне пачалося 23-га красавіка. Камісарам і вайсковым начальнікам у Магілеўскай губэрні быў, прысланы зь Вільні, палкоўнік расейскае арміі Зьвяздоўскі. Ён арганізаваў паўстанскія ўлады і ў Магілеве і ў паветах. Паўстаньне пачалося нападам на сельска-гаспадарскую школу ў Горках. Вучні школы далучыліся да паўстаньня й Зьвяздоўскі арганізаваў зь іх аддзел пад камандаю Дамарадзкага. Аддзел гэты напрацягу доўгога часу змагаўся з расейскім войскам. Начальнікам Варшанскага павету й камандзерам паветавага аддзелу быў ахвіцэр царскай арміі Будзіловіч. У вадным з баёў з расейскім войскам, Будзіловіч дыў узяты ў палон, засуджаны й расстраляны ў Воршы. Зь іншых паўстанскіх камандзераў у Магілеўшчыне асабліва вызначыліся Жукоўскі (мянушка Каса), Грыневіч, Анцыпа, Корсак, ды два браты Манцэвічы, таксама ўзятыя ў палон пасьля аднаго гарачага бою й расстраляныя ў Магілеве.

### ПАЎСТАНЬНЕ Ў ЛЕТУВЕ (ЖАМОЙЦІ)

Паўстаньне на прасторы Летувы ўзначальваў Жыгімонт Серакоўскі. Як ахвіцэр генэральнага штабу расейскае арміі, ён пачаў падрыхтову да паўстаньня, арганізуючы рэгулярныя вайсковыя аддзелы. Жамойцкая моладзь школілася ў лясох Ковеншчыны паводля ўсіх правілаў вайсковага рэгуляміну. Аддзелы карысталіся жамойскай (летувіскай) мовай, у якой выдаваліся ўсе каманды й загады. Гэта вельмі падабалася летувіскай моладзі й яна масава йшла ў аддзелы Серакоўскага. Неўзабаве ён меў добра навучанае й дасцыплінаванае войска, што вельмі непакоіла Расейцаў і курляндзкіх баронаў дзеля скрайнае сацыяльнае праграмы Серакоўскага. Першыя сутычкі з расейскім войскам былі пераможныя для Серакоўскага. Але пасьля падтрыманьня расейскага мойска дапаможнымі аддзеламі курляндзкіх баронаў, Серакоўскі быў абкружаны 22 красавіка 1863 году Расейцамі пад мястэчкам Біржамі. Пасьля зацятае бітвы, войска Серакоўскага было разьбітае, а сам Серакоўскі ранены і ўзяты ў палон. Аднак, гэта ня спыніла паўстаньня. Жамойць доўга яшчэ наважана змагалася з расейскім войскам. Асаблівым гэраізмам і камадзерскім талентам вызначыўся там ксёндз Мацкевіч. Ён колькі разоў разьбіваў моцныя расейскія аддзелы, аж 17-га сьнежня 1863 году трапіў у палон. Ксёндз Мацкевіч быў гэткі папулярны ў Летувісаў, што, каб пераканаць жыхарства ў запраўднасьці палону ксяндзя, галоўнага правадыра паўстаньня, — Расейцы вазілі яго па местах і вёсках Летувы, паказваючы народу. 26-га сьнежня 1863 году ксёндз Мацкевіч быў усенародна павешаны ў Коўні.

### ГРАФ МІХАІЛ НІКАЛАЕВІЧ МУРАЎЁЎ

З прыгаданага вышэй відаць, што паўстаньнем былі ахопленыя ўся Беларусь і Летува, ці — увесь «Северо-Западный Край». Генэрал-губэрнатар Назімаў ня мог даць рады із полымем паўстаньня й падаўся ў адстаўку. На ягонае месца самым царом быў вызначаны граф Міхаіл Нікалаевіч Мураўёў, які атрымаў адмысловыя паўнамоцтвы дзеля здушэньня паўстаньня. 14-га травеня 1863 году Мураўёў прыехаў у Вільню. У сваіх успамінах ён гэтак апісвае свае першыя віленскія ўражаньні:

«Ўсюды бурлела паўстаньне, ненавісьць і пагарда да нас, расейскае ўлады і ўраду. З загадаў генэрал-губэрнатара кпілі й ніхто іх ня выконваў. У гэткім бязвыходным палажэньні быў край, калі я прыехаў у Вільню 14-га травеня 1863 г.»

(Далей будзе)

